№34(277) 29.09.2000 – 08.10.2000 Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета • Заснавана ў чэрвені 1994 г.

# Беларуская маладзёжная




## Папярод цягніка

### Агляд заўтрашніх падзей

**28 верасня** ў мінскім мікраараёне Малінаўка ў Маладзёжным цэнтры «Майстэрня будучыні» з 14 да 17 гадзін праводзяцца семінары «Праца з грамадскасцю» і «Гвалт і моладзь».

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» працягвае серыю пікетаў пад агульным лозунгам «Байкот выбарам». Пікеты адбудуцца:

**29 верасня** на вуліцы Бурдэйнага (каля рынка «Заходні») з 16 да 18 гадзінаў, на перакрыжаванні вуліц Даўгабродскай і Уральскай з 15.30 да 17.30, на перакрыжаванні вуліц Ракасоўскага і Ванеева з 18 да 20 гадзінаў, у Міхайлаўскім скверы з 18 да 20 гадзінаў, на плошчы Бангалор (з боку рэстарану) з 16 да 18 гадзінаў, каля ст.м. «Усход» з 16 да 18 гадзінаў, каля ст.м. «Аўтазаводская» з 15.30 да 17.30.

**30 верасня** на перакрыжаванні вуліц Варвашэні і Скарыны з 14 да 16 гадзінаў, вуліцы Бабруйская, 7 з 12 да 14 гадзінаў.

**1 кастрычніка** — «Марш Свабоды III». Збор удзельнікаў акцыі ў 12 гадзінаў на пляцоўцы каля Акадэміі Навук.

**4 кастрычніка** Інтэрнэт-цэнтр АТ «Беларускі Саюз Моладзі» пры падтрымцы прадстаўніцтва Дзіцячага Фонда ААН у Рэспубліцы Беларусь ладзіць Першую Інтэрнэт-канферэнцыю «Дзеці свету — за свае правы». Мэта канферэнцыі — павышэнне інфармаванасці грамадства ў галіне захавання правоў дзіцяці.

**14 кастрычніка** ў памяшканні кінатэатра «Змена» з 10 да 18 гадзін ТБМ імя Ф.Скарыны будзе праводзіць навуковую канферэнцыю «Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць». Пасля канферэнцыі адбудзецца ўрачыстае паседжанне з нагоды юбілею Кастуся Тарасава і прэзентацыя яго новай кнігі «Апошняе каханне князя Міндоўга».

**МУЗЫЧНЫ ВАГОН**

**1 кастрычніка** ў клубе «Альтэрнатыва» (Бяды, 4) адбудзецца канцэрт з удзелам гуртоў ЗЬНІЧ, DIATHRA і др. Пачатак а 19 гадзіне.

**12 кастрычніка** ў КЗ «Мінск» адбудзецца прэзентацыя новага альбома гурта N.R.M. «Тры чарапахі». Пачатак а 19 гадзіне.

**АРТ-ВАГОН**

**30 верасня** ў Беларускім відэаклубе (Румянцава,13) дэманструецца мультфільм «Меч у камяні». Пачатак а 18 гадзіне.

**4 і 11 кастрычніка** а 18 гадзіне ў кінатэатры «Змена» адбудзецца сустрэча з выдаўцамі альбома вядомага беларускага опернага спевака Забэйды-Суміцкага і паказ фільма «Вяртанне Міхася Забэйды».

Падрыхтавала Л.Шастак

## УТВЕРЖДЕНО ОФИЦИАЛЬНОЕ МЕСТО СБОРА УЧАСТНИКОВ МАРША СВОБОДЫ

Минские городские власти вечером 25 сентября были все же вынуждены санкционировать проведение в Минске 1 октября Марша Свободы.

**Сбор участников Марша Свободы начнется в 12 часов 1 октября 2000 года на площади возле Национальной Академии Наук (станция метро Академия Наук).**

Марш Свободы проводится для привлечения внимания общественности к фактам нарушений их избирательных прав и свободы выбора – за свободные справедливые выборы, против избирательного фарса. Акции, указано в ответе властей, разрешается пройти по центральным улицам Минска и проспекту Скорины до парка Дружбы Народов.

Заявленное количество участников акции – до 100 тысяч человек.

## *Падпішыся!*

***«Белпошта» зноў «забылася» было ўключыць «Беларускую маладзёжную» у падпісны каталог (на IV квартал). Але мы ёсць, і па індэксе 63309 вам павінны аформіць падпіску на любой пошце! Настойвайце — тым больш, што «уздагон учарашняму дню» на пошты разасланая з Мінску тэлеграма пра падпіску на «БМ».***

«Беларуская маладзёжная» паважае Ваш розум і Ваш выбар. Мы ніколі не вучым Вас жыць, але падказваем, як жыць годна.

«Беларуская маладзёжная» інфармуе пра справы, планы і меркаванні тых, пра каго «забылася» дзяржаўнага прэса — нармальных людзей, ініцыятыўных асоб, крытычнага да цяперашніх парадкаў народу.

«Беларуская маладзёжная» цэніць трапнае слова і не друкуе нудоты.

«Беларуская маладзёжная» — гэта «САМвыдат» і «Армейская курылка», «Біржа працы» і «Клуб людзей», «Права на слова» і «Незабытая вёска». Нашу газету на 50% ствараюць чытачы, і ў любой з існуючых рубрык знойдзецца месца Вашаму меркаванню.

«Беларуская маладзёжная» — неблагая газета, гаворым мы, а тыя, хто чытае «БМ» пастаянна, часцяком дораць нам досыць гучныя кампліменты.

Будзь разам з намі! Мы працуем на будучыню — далучайся! Талакой, як кажуць, і бацьку лягчэй біць!

Падпісны індэкс 63309.

Рэспубліканская
грамадска-палітычная
незалежная газета
«Беларуская маладзёжная»

## *Волна Свободы*

Власть боится свободного слова и правдивой информации. Режим может закрыть независимые газеты, не допускать правду на радио и телевидение, но он не может запретить нам общаться с друзьями.

Если тебе не все равно, каким будет твое будущее, Марш Свободы — для тебя!

Если тебе не безразлично будущее твоей страны, позвони по телефону 10 своим знакомым, которым надоело жить при диктатуре. Только в Минске их более 1 000 000 человек! Сообщи им о санкционированной акции "Марш Свободы".

Большинство граждан не выходят на массовые акции только потому, что не знают о них.

Если с каждым из нас рядом будет 10 друзей, на улицу выйдет весь город!

## Разбірайце вашыя прызы!

***Увага!***
***Усім прыхільнікам Формулы 1!***

Конкурс, абвешчаны «Беларускай маладзёжнай» сумесна з клубам Гран Пры, нарэшце, завяршыўся. Самым эрудыраваным аказаўся **Паўлюк Лаўрыновіч** з г.Глыбокае Віцебскай вобласці. Ён заняў першае месца.

Другім стаў мінчанін **Уладзімір Валодзін**. На пачэсным трэцім месцы — **Рашэд Чаўдхуры** з пасёлку Навінкі Мінскага раёну. Калі прозвішча Рашэда мы «перакульнулі» (напісана не надта разборліва), спадзяемся, пераможца і сябры яго пазнаюць: наўрад ці ў паселку Навінкі шмат юнакоў з досыць незвычайным імем.

«Беларуская маладзёжная» віншуе пераможцаў і спадзяецца, што сяброўства з нашай газетай на гэтым не скончыцца.

А шыкоўныя прызы ад клуба Гран Пры вы можаце атрымаць без затрымкі! Прыходзьце 6 кастрычніка а 14 гадзіне да нас у рэдакцыю. Але, калі ласка, патэлефануйце папярэдне па тэлефоне

**8 (0172) 20 98 04.**

«БМ»

## Пакуль не паўстанеш з кален, не будзе ў жыцці перамен!

# Вырабы-00: прапала Беларусь!

**Распачаты Маладым Фронтам збор ВЫРАБАЎ – “самых фальшывых і пустых улёткаў, самых вычварных і дурных выказванняў, самых характэрных папісканняў і аглушальных пшыкаў” – працягваецца. Што й казаць, дэфіцыту гэтых вырабаў у нашай краіне не назіраецца. Пэўна, ад недахопу чаго іншага.**

Маладафронтаўцы адкапалі паперчыну вось такога зместу: “В поддержку МОЗГО Олега Павловича, заместителя начальника Главного управления строительства и инвестиций Мингорисполкома, начальника отдела строительства, первого секретаря Минского горкома Партии коммунистов Белорусской, 1950 года рождения, инициативная группа граждан собирает подписи избирателей для выдвижения товарища Мозго О.П. кандидатом в депутаты Палаты представителей Национального собрания Республики Беларуси”. Вы штонебудзь зразумелі? Асабіста маім мазгам прыйшлося вельмі доўга і напружана працаваць, каб высветліць: каго падтрымліваюць і каго вылучаюць. І гэтыя Мазго — адзін і той жа чалавек ці ўсё ж розныя? Але ў камуністаў, відаць, з шэрым рэчывам усё добра — хапае і нават з лішкам: ажна два Мазго ў адным сказе!

Дарэчы, прэтэндэнты ў палатку ад ПКБ, здаецца, ледзь ні самыя прадуктыўныя вытворцы гэтых самых ВЫРАБАЎ. Не спадзяючыся, відаць, на разумовыя здольнасці свайго электарату, пэкабэшнікі спрабуюць яго наўпрост запужаць. Напрыклад, прывідам камунізму, які працягвае бадзяцца па Беларусі. На пачатку праграмкі “Платформа ПКБ” катэгарычна сцвярджаецца: “Все, кто находился у власти в Беларуси после августовской контрреволюции 1991 года, уничтожили завоевания реального социализма с той лишь разницей, что С.Шушкевич и В.Кебич пытались строить буржуазно-демократическое государство, а А.Лукашенко создает буржуазное государство авторитарного типа”. Цікава, а рэальны сацыялізм — гэта што? З чым яго ядуць? У часы да “контррэвалюцыі”, памятаецца мне, з заваёваў толькі што і былі абяцанкі-цацанкі кожнаму кватэру да 2000 года, батон за 20 капеек ды папяровая кілбаса. Але ў камуністаў памяць, напэўна, даўжэйшая: яны памятаюць і ікру — не “заморскую, баклажанную”, а чырвона-чорную, у танных харчовых “заказах”, і асобныя санаторыі-прафілакторыі, не дасягальныя для простых смяротных, і шыкоўныя сядзібы, і банькі з “девочками”. Канешне, не ў простых камуністаў, а ў тых, хто сённяшнім сцежку ў палатку пратоптваў. Ну а для астатніх замест усіх гэтых маленькіх радасцяў жыцця былі заклікі. Кшталту: “Свобода, равенство и братство!”. Толькі сёння, з папраўкай на сучасныя рэаліі, заклік гучыць крыху па-іншаму: “Свобода, благосостояние, порядок!”. Але гэта і зразумела: з вядомым беларускім парадкам уявіць братэрства міліцыянтаў з дэманстрантамі неяк цяжкавата.

А вось яшчэ адзін прыклад таго, як нас спрабуюць запужаць. “Если Вам небезразлична сегодняшняя и завтрашняя жизнь ваших детей, если Вам дорога собственная судьба — просим прийти Вас (ваших соседей) на встречу с кандидатом в депутаты Палаты Представителей РБ Курловичем Игорем Михайловичем”. Арфаграфія, я так разумею, захавана аўтарская. А стыль і змест, напэўна, узяты з тых самых крымінальных колаў, толькі што блатнога “в натуре” не хапае. Дзякуй Богу, не па маёй акрузе балатуецца гэты Курловіч. Вось не прыйшла б на сустрэчу, спаслалася б на недахоп часу, занятасць працай — і ўсё. Дзецям, мне, суседзям і любімай котцы.

Але ёсць і другія кандыдаты. Тыя, што не пужаюць, а наадварот — усялякімі шляхамі прываблiваюць і заахвочваюць. Што ў нас самае балючае? Правільна, здароўе. Вось і І.У.Анташкевіч, які балатуецца па Сухараўскай выбарчай акрузе № 101, абяцае: “В ходе возможной депутатской деятельности я беру также обязательства более глубоко и всесторонне изучить другие социальные проблемы, имеющиеся в округе, и по мере сил устранять шаг за шагом трудности в жизнедеятельности избирателей”. Што такое “цяжкасці ў жыццядзейнасці”, спадзяюся, нікому тлумачыць не трэба. Лепш за ўсё вырашаюцца яны звычайнай клізмай. Але як праводзіць гэтую медыцынскую працэдуру на хаду, відаць, толькі Анташкевіч і ведае. Ці мелася на ўвазе, што ставіць клізму трэба паступова, “крок за крокам”, “больш глыбока і ўсебакова”? Садыст тады нейкі гэты магчымы дэпутат!

Дарэчы, мне тут у галаву раптам ідэйка патрапіла: справа, якой зараз займаецца Малады Фронт, напэўна, вельмі карысная для саміх кандыдатаў у дэпутаты. У сэнсе, што ўсе гэтыя вырабы наўпрост можна выкарыстоўваць у перадвыбарчай барацьбе супраць канкурэнтаў, калі самім збіраць кампрамат часу не стае ці мазгоў (гл. вышэй) не хапае. Зацікаўленым паведамляю: арыгіналы знаходзяцца ў Маладым Фронце.

Ну вось, крыху інтрыгі падкінула і працягваю разгляд вырабаў на палітычных паліцах Беларусі. Нейкі У.Чартовіч, які ідзе па Усходняй выбарчай акрузе, шчыра папярэджвае: “Помните, кандидаты вам будут сулить золотые горы, чохом решение всех проблем. Но, подобно всем политиканам, сразу же после достижения цели они выбросят вас из головы, забудут о существовании своих избирателей”. Што, не баіцеся быць выкінутымі? Ды яшчэ нейкім чохам? Тады — увага: “крутое пике”! “Уважаемые пассажиры! По вашим многочисленным просьбам с 15 августа добавился автобус на маршрут № 99, а автобусный маршрут № 116э из пикового переводится в целодневный. С уважением, ваш депутат Марахин В.И.” Амаль як у класіка: пікі, бубны, трэфі, тройка, сямёрка, туз. Раскінуў Марахін пас’янсік, можа, калі і тузом стане. І не якім пікавым, а “целодневным”.

Але самы файны, самы шыкоўны выраб, які прывёў у захапленне ўсю нашу рэдакцыю, знаходзіцца ў мінскай газеце “Вестник Советского района”. У змешчанай на 3 старонцы абвестцы пра выбары ў Палату прадстаўнікоў цалкам знікла... Беларусь. На выяве герба у тым месцы, дзе павінны знаходзіцца абрысы краіны (нагадаю: у цэнтры, над зямным шарам) нічога няма! Больш таго, з ніжняй стужкі знікла і сама назва краіны. Засталося толькі “Рэспубліка...” Карацей, прапала Беларусь. І адзінокі вянок на абвестцы пра выбары — злавеснае таму прадказанне.

Ну і напрыканцы, дзеля таго, каб вы не заблыталіся ў сучасных беларускіх вырабах, прапануем вытрымкі з “Слоўнічка”, складзенага, зразумела ж, Маладым Фронтам.

**Адмарозак** — актывіст апазіцыі, які не ўваходзіць на ўчастак, мерзне і лічыць людзей на вуліцы.

**Аб’ём** — ціха пра Сашу (на думку нашай рэдакцыі, гэта лепшая фішка “Слоўнічка”!).

**Белы-цень** — паперка для вырабаў 15 кастрычніка, чымсьці падобная на сапраўдны выбарчы бюлетэнь.

**Выбіральня** (не блытаць з прыбіральняй) — кабінка для спраўлення сваёй натуральнай грамадскай патрэбы, пасля якой выкарыстаную паперку выкідаюць у ўрну.

**Выгляд** — назіральнік.

**Ёклмн (у асобных выпадках — ёпрст, скарочана ё-маё)** — пералік прозвішчаў кандыдатаў у парадку альфавіту.

**Кастрычаняты** — жадаючыя трапіць у палатку 15-29 кастрычніка.

**Калявыбаранты** (не блытаць з калябарантамі) — трагічныя і неадназначныя асобы з шэрагу дэмакратычнай апазіцыі, якія цераз сілу, выключна з добрых пабуджэнняў вымушаныя ўдзельнічаць у выбарах альбо завіхацца каля іх.

**Крыжыкі-нулікі** — гульня з кандыдатамі ў кабінцы. Першы ход ваш, але, зрабіўшы яго, вы адразу выбываеце з гульні.

**Ле-бя-да, лі-бі-да** — лібэралдэмакраты, ЛДП (б).

**Палатка** — сымбаль піянерскага турзлёту, часовы прытулак для тых, хто імкнецца да кармушкі, прасцей чум, вігвам альбо юрта.

**Садысты, сіцылісты, CD** — сацыял-дэмакраты з БСДППНС.

**Х** — 15.Х, дзень “хэ” (ці “ху”?), на які прызначаны вырабы.

**Я** — а гэта я, той, хто ў нядзелю замест вырабаў можа пайсці ў кіно з каханай, гуляць з дзіцем у парку ці, нарэшце, прыбрацца ў хаце.

Насцёна Пятроўская, “БМ”

# Щукин выиграл последний бой



Верховный Суд Беларуси окончательно отказал депутату Верховного Совета Валерию Щукину в регистрации его в качестве кандидата в депутаты нынешней Палаты представителей. На судебном заседании 25 сентября Щукин так и не отказался от записи в своей анкете: место работы Верховный Совет 13 созыва.

Щукин, пройдя все судебные инстанции, уверен, что вышел из избирательной гонки победителем. По его словам, он присоединяется к бойкоту избирательного фарса и примет самое деятельное участие в Марше Свободы 1 октября.

Чартерная информация

# Спакайней!



Істэрыка, як вядома, — не спосаб вырашэння спраў. На службе яна ўвогуле недапушчальная, істэрычны службовец дыскрэдытуе ўстанову і ўвогуле з’яўляецца пагрозай грамадскай бяспецы. Але інакш, як істэрычнымі, нельга назваць паводзіны супрацоўнікаў сталічнага Ленінскага райаддзела міліцыі, якія 23 верасня на вуліцы Якубава затрымалі чатырох сябраў Маладога Фронту (з Свіслацкай і Кастрычніцкай Радаў). Двое міліцыянтаў, пабачыўшы на школе № 143 налепкі «Все на выборы», затрымалі і абшукалі хлапцоў. Чатыры з паловай гадзіны «злосныя агітоўшчыкі» знаходзіліся спачатку ў апорным пункце, потым у РУУС Ленінскага раёну. На кожнага былі складзеныя пратаколы па трох артыкулах: за антысанітарыю, публічны заклік да байкоту выбараў, распаўсюджванне друкаваных выданняў без выходных дадзеных.

У РУУСе супрацоўнік міліцыі спрабаваў адабраць у аднаго з затрыманых шалік з надпісам «Беларусь». Таксама аднаму з хлапцоў пагражалі фізічнай расправай за бел-чырвона-белую значку. Выразы пры гэтым выкарыстоўваліся не самыя літаратурныя: «Может, тебе сапогом на морду наступить?».

Прэс-служба Маладога Фронту

• **Алё, мы вас чуем!**

## Абудзіўшыся

*Добра сьмяецца той,*
*хто сьмяецца своечасова.*

Здрыгануўся ад рогату,
Азірнуўся — спужаўся:
Рагоча хто?
Хто вушамі дапяўшы рогу
Паветра бухторыць ноччу?
Хто?!!
Ды сам я.
Прысьніў анекдот няўдалы:
Сінявокую маю Беларусь
Дзяцюк пляскаты
Хапае лапамі,
Быццам бабу паддатую —
З недарэчнасці гэтае
І весялюсь!

Аляксандр Батура

# Прафсаюзы за «Рабочага»

Свободный профсоюз Белорусский выразил свою поддержку газете «Рабочий». «Несколько лет назад, когда газета только создавалась, мы стояли у ее истоков и были одними из учредителей. Сейчас газета существует самостоятельно, но сохраняет свою профсоюзную, демократическую ориентацию, за что и преследуется властями», — говорится в заявлении.

СПБ, как и ряд других общественных организаций, считает, что преследования за призыв к бойкоту выборов незаконны. «Власти, несмотря на обещание сохранять перемирие на время выборов, продолжают преследовать демократические СМИ, общественные организации и профсоюзы», — констатирует Свободный профсоюз.

Соб. инф.

# Гэта страшнае слова “байкот”

***Працягваюцца затрыманьні грамадзянаў, якія распаўсюджваюць друкаваную прадукцыю, што ўтрымлівае заклікі да байкатаваньня маючых адбыцца 15 кастрычніка выбараў у Палату прадстаўнікоў. Шэраг актывістаў — прыхільнікаў байкоту падпалі пад судовыя разбіральніцтвы.***

**21** верасьня ў Гомелі быў затрыманы старшыня Гомельскай гарадзкой арганізацыі БНФ Анатоль Паплаўны. Супрацоўнікі міліцыі правялі вобыск у ягонай машыне, дзе ў багажніку знайшлі сьпецвыпуск газэты «Рабочы». Газэту канфіскавалі, а самога затрыманага адвезьлі ў РАУС, дзе склалі пратакол.

21 верасьня ў Гомелі ў кватэру да вядомага палітыка і грамадзкага дзеяча Віктара Карніенкі ўварвалася шасьцёра супрацоўнікаў міліцыі. Не прадставіўшы дакументаў на вобыск, яны запатрабавалі ў гаспадара паказаць газэту «Рабочы». Сп.Карніенка папрасіў міліцыянтаў пакінуць кватэру, а наконт гэтага выпадку напісаў скаргу пракурору Гомельскай вобласьці.

20 верасьня ў Берасьці быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі Сяржук Грынь за расклейваньне налепак «Байкот-2000». На затрыманага быў складзены пратакол.

24 верасьня ў Бабруйску каля 21.30 гадзінаў на вул. Інтэрнацыянальнай былі затрыманыя чацьвёра маладых людзей за расклейваньне налепак, якія ўтрымлівалі заклікі да байкатаваньня выбараў, а таксама налепкі з інфармацыяй пра “Марш Волі-3”, запланаваны на 1 кастрычніка 2000 г. Затрыманыя былі дастаўленыя ў 8 апорны пункт гораду, адкуль трое непаўнагадовых былі адпушчаныя, а 18-гадовы Эдуард Грынявецкі дастаўлены ў РАУС Ленінскага раёну Бабруйску. Там на яго склалі пратаколы канфіскацыі друкаванай прадукцыі і затрыманьня (невядома, у парушэньні якога артыкулу абвінавачваўся), а потым пасьля 3 гадзінаў знаходжаньня ў пастарунку адпусьцілі і папярэдзілі, што ў хуткім часе ён атрымае позву ў суд.

25 верасьня ў судзе Савецкага раёну Мінска пачаўся разгляд адміністратыўнай справы сябра АГП Яраца Сяргея, які быў затрыманы 24 верасьня ў раёне Камароўскага рынку падчас раздачы газэтаў “Наша Свабода” і “Народная воля” і абвінавачваўся ў парушэньні арт. 167.3 КаАП РБ (парушэньне заканадаўства аб выбарах). Рашэньне па справе не вынесенае і працяг судовага разгляду справы перанесены на 3 кастрычніка.

Інфармацыйны аддзел ПЦ “Вясна”
*(Захаваны правапіс арыгіналу)*

# АПАЛОГІЯ АПАЗІЦЫІ

**Шэсьць год таму, калі А.Лукашэнка толькі прыйшоў да ўлады, мала хто прадказваў правалы яго палітыкі. Сёньня — іншая справа. Каму не бачна, што ПП РБ завёў краіну ў тупік? Менавіта зараз неабходна дзейнічаць, маючы ясную мэту і разумеючы сродкі яе дасягненьня.**

*(Працяг. Пачатак у №№ 32, 33)*

Паколькі А.Лукашэнка не пайшоў на кампраміс ні па адной з чатырох умоў, якія б дазволілі правесьці справядлівыя выбары, апазіцыйныя дэмакратычныя партыі прынялі рашэньне выбарчы фарс байкатаваць. Такім чынам, мэта антылукашэнкаўскай апазіцыі — дамагчыся таго, каб рэжым быў змушаны вярнуцца да абмеркаваньня ўмоў правядзеньня выбараў. Што азначае — доступ усіх апазіцыйных партый да дзяржаўных СМІ. Спыненьне судовых перасьледаў па палітычных матывах. Вяртаньне да ўдасканаленьня выбарчага заканадаўства. Распрацоўка паправак да Канстытуцыі і закона аб парламенце РБ.

Дасягнуць гэтай мэты можна, калі на выбарчыя ўчасткі 15 кастрычніка прыйдзе менш за 50% выбаршчыкаў. Байкот — адзіны актыўны сродак дасягненьня пастаўленай мэты. Нельга ісьці і выкрэсліваць усіх. Бо гэта вядзе да таго, што выбары фармальна адбудуцца і нехта будзе абраны.

Байкот ёсьць канстытуцыйнае права як чалавека, так і партыі. Няма і не бывае партый, якія не хацелі б удзельнічаць у выбарах. Байкот і ёсьць вельмі актыўная форма ўдзелу. Да яе прыбягаюць у тых выпадках, калі няма іншага мірнага сродку рэалізаваць дадзенае Богам чалавеку права нязмушанага выбару. Нагадаю прыклад "Салідарнасьці". У 1985г. яна байкатавала выбары, якія праводзіліся па звычайнай камуністычнай завядзёнцы: "выбары" без выбару. Фармальна "Салідарнасьць" прайграла. Рэжым генерала Ярузельскага свае выбары правёў. І абраў свой Сойм. Толькі гэты Сойм ня быў у стане ажыцьцявіць неабходныя для краіны рэформы, бо складаўся з людзей, якія рэформ не жадалі. Таму праз пяць год на фоне развалу эканомікі Ярузельскаму давялося ўсё ж сесьці за круглы стол з "Салідарнасьцю" і даць згоду на сапраўды свабодныя выбары. Вынікі вядомыя — "Салідарнасьць" атрымала 100% перамогу, і рэжым генерала сканаў. Не думаю, што ў рэжыму А.Лукашэнкі лепшыя перспектывы.

Падмурак перамогі "Салідарнасьці" у пачатку 1990г. быў закладзены байкотам 1985г. Тады грамадства Польшчы атрымала ясны сігнал — у краіне ёсьць інтэлектуальныя сілы, якія жадаюць перамен. Таму што ад удзелу ў выбарчым фарсе адмовіліся многія вядомыя юрысты, эканамісты, палітыкі. Ім польскі народ і аддаў свае галасы на першых свабодных выбарах.

У Беларусі такіх выбараў яшчэ не было. Дзесяць год мы ходзім па зачараваным заганным коле, бясконца наступаючы на адны і тыя ж граблі. Таму што згаджаемся гуляць па правілах рэжыму. Спачатку Я.Сакалова. Потым В.Кебіча. Потым А.Лукашэнкі. І будзем хадзіць яшчэ шэсьць год, калі не ажыцьцявім пасьпяховы байкот гэтай восеньню.

А.Лукашэнка так баіцца дэмакратызацыі выбарчага працэсу, бо ведае, што, страціўшы кантроль над дзяржаўнымі СМІ і выбарчымі камісіямі, абавязкова прайграе прэзідэнцкія выбары 2000г. У гэтым корань палітычнага канфлікту, які мы перажываем зараз. А.Р. таксама добра разумее, што, дабіўшыся міжнароднага прызнаньня сваіх квазівыбараў у свой квазіпарламент, ён, не мяняючы складу выбарчых камісій і парадку галасаваньня (навошта, калі існуючы парадак задавальняе дэмакратычны сьвет), сфальфікуе і выбары 2001г. Выбары, якія, насамрэч, будуць вызначаць пытаньне ўлады.

Акрамя гэтай найважнейшай мэты — дасягнуць права правесьці сапраўды свабодныя прэзідэнцкія выбары ў 2001г. — ёсьць сёння і іншыя важкія прычыны байкоту выбараў новага складу ПП НС. Байкот патрэбны, каб не прыдаць законнасьць вынікам дзяржаўнага перавароту 1996г., які зрабіў паўнамоцтвы парламента нікчэмнымі, а прэзідэнта — усеабдымнымі. Каб не надаць юрыдычнай сілы дамоўленасьцям з Масквой, якія абмяжоўваюць суверэнітэт Беларусі. Каб не падарваць сваім удзелам легітымнасьць той часткі ВС 13 скліканьня, якая не пайшла ў прыслужніцы да Лукашэнкі.

Узважыўшы ўсе гэтыя довады, 4-ы Кангрэс дэмакратычных сілаў прыняў 2 ліпеня заклік да ўсіх апазіцыйных партый байкатаваць выбары, паколькі рэжым не пайшоў на дэмакратызацыю выбарчага працэсу. Тое, што ня ўсе дзевяць апазіцыйных партый падтрымаюць гэты заклік, было відавочна. ЛДП і ПКП даволі ясна заяўлялі пра свой намер у выбарах удзельнічаць. Гэтым яны клалі канец сваёй апазіцыйнасьці, бо сьведама шлі на тое, каб падгуляць рэжыму ў здзяйсненьні яго ных планаў. Калі міжнародная супольнасьць прызнае лукашэнкаўскія выбары, тое будзе "заслугаю" гэтых партый. Акрамя п[…]ой здрады можа быць толькі адно тлумачэньне такой "апазіцыйнасьці" — жаданьне падняць сваю папулярнасьць за кошт сваіх былых калег па апазіцыі, якія выбары байкатуюць. Жаданьне вельмі сумніўнае і заганнае.

Але на самім Кангрэсе праявіліся прыкметы яшчэ адной небясьпекі. Ці выпрабаваньня для дэмакратычнай апазіцыі? Гэта — імкненьне супрацьпаставіць пазіцыю партыі праву чалавека самастойна выбіраць лінію сваіх паводзінаў. Камуністы шмат год дэманстравалі нам, што воля партыі — закон для яе сяброў. Таму, магчыма, для некаторых з дэмакратаў падалося, што гэта — не ўсеагульнае правіла і праява таталітарызму. Ініцыятарам "вольнадумства" выступіў старшыня БСДП (НГ) М.Статкевіч. Гэтым ён кінуў выклік дэмакратычнай апазіцыі. Ці будзе яна ў стане вытрымаць спакусу? Ці, забыўшыся на калектыўныя рашэньні, масы дэмакратаў кінуцца шукаць удачы стаць прыслужнікам дыктатара? І, галоўнае, прадэманструюць сваю палітычную нясьпеласьць — няздольнасьць да калектыўнай працы і абароны прынцыпаў і народных інтарэсаў.

Сеньня можна сказаць, што дэмакратычная апазіцыя гэтае выпрабаванне вытрымала. Тыя некалькі дзесяткаў асоб, што праігнаравалі рашэньні сваіх партый, апазіцыю не пакалолі. Хутчэй наадварот. Яны зрабілі свой выбар, і партыі мусяць улічваць гэта. Некаторыя з гэтых асоб спалілі свае палітычныя перспектывы.

Як аб'яднаная апазіцыя мусіць рэагаваць на жаданьне М.Чыгіра памяняць свой статус экс-прэмьера на статус члена лукашэнкаўскай "палаткі"? Толькі так — выключыць яго прозвішча са спісаў магчымых кандыдатаў ад апазіцыі на прэзідэнскіх выбарах 2001г. І дэмакратычныя партыі мусяць зрабіць гэта абавязкова, прадэманстраваўшы такім чынам, што неабходным элементам палітычнай культуры ёсьць адказнасьць за свае ўчынкі. І пасьлядоўнасьць.

Кіданьне з боку ў бок і для адной асобы — непрыстойнасьць. Паводзіны, якія не выклікаюць даверу. Для палітычнай партыі гэта сьмерці падобна. Калі лідэр кідае адкрыты выклік калектыўнаму рашэньню, ён павінны быць заменены. Гэта — закон дэмакратыі, а не трагедыя асобы. Яшчэ лепей, калі ён сам падае ў адстаўку.

Так ці інакш, канфлікт, створаны невялікай колькасьцю асоб, якія праігнаравалі нормы палітычнай культуры, не прывядзе да крызісу ў апазіцыі. Тым больш да яе расколу. Толькі да ачышчэньня. Дзесяць пакутлівых гадоў не прайшлі дарма. І наш народ, і нашы дэмакратычныя партыі набываюць такі дарагі вопыт. Гартуюць волю. Вучацца аддзяляць "плевелы ад пшаніцы". Таму добра, што ачышчэньне адбылося да сапраўды значнай выбарчай кампаніі. Да прэзідэнцкай кампаніі 2001 году. Чым больш адзінай будзе апазіцыя, тым лепей. Толькі адзіная апазіцыя ў стане вылучыць адзінага дэмакратычнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах. І гэта не будзе С.Гайдукевіч. Бо апазіцыя ўжо зразумела, што палітыка — гэта навука і мастацтва калектыўнага дзеяньня.

Дай Бог сілы нашай дэмакратычнай апазіцыі. Беларусі патрэбны перамены. Яе народ мае права зрабіць выбар на карысьць перамен. Дай Бог, каб пры гэтым ён не зрабіў чарговай памылкі.

Ю.Хадыка, для «БМ»
*(Захаваны правапіс аўтара)*

# Кто они, кандидаты в "слуги народа"?

## *Регистрация стала первым этапом расчистки мест для кандидатов от власти*

15 сентября завершилась регистрация кандидатов в депутаты Палаты представителей второго созыва. По данным ЦИК на финишную прямую избирательного марафона вышли 574 претендента. Им предстоит разыграть 110 парламентских вакансий. Таким образом, конкуренция на предстоящих выборах в среднем составит 5 кандидатов на место. Однако, по признанию председателя Центризбиркома Лидии Ермошиной, есть ряд округов, где зарегистрировано всего по два кандидата, а в Беловежском избирательном округе N7, в котором баллотируется председатель бюджетной комиссии Палаты представителей Александр Зинченко, и вовсе пройдут безальтернативные выборы.

По регионам наибольшая плотность кандидатов в депутаты отмечается в Минске — 116 претендентов на 18 мандатов; на втором месте Минская область — 93 кандидата на 17 округов. В остальных областях сложилась следующая картина: в Брестской области — 78 кандидата (16 округов); в Витебской области 87 (16); в Гомельской — 78 (17), Гродненской — 57 кандидатов (13); Могилевской — 64 кандидатов (13). Отказано в регистрации 194 претендентам на депутатский мандат. Причем, в их число угодили известные в стране политические и общественные деятели: президент благотворительного фонда «Детям Чернобыля» Геннадий Грушевой, супруга экс-премьера М.Чигиря Юлия Чигирь, заместитель председателя Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада) Нина Стужинская, известный адвокат Гарри Погоняйло, председатель Федерации профсоюзов белорусской Владимир Гончарик, лидер профсоюза работников автомобильного и сельскохозяйственного машиностроения, депутат Верховного Совета 13-го созыва Александр Бухвостов, правозащитники Валерий Щукин и Олег Волчек. В результате из так называемого «списка Шлындикова», который включает 58 фамилий, после регистрации осталось всего 19.

Несмотря на заверения властей, регистрация все же превратилась в расчистку дороги для кандидатов от власти. Подтвердились самые пессимистичные предположения — власть дала понять, что не намерена мириться даже с попытками внедрения демократической оппозиции даже в бесправную Палату представителей. Безжалостная чистка прошла по всем регионам. Под "топор" избиркомов попали не только представители демократического лагеря, но даже активно поддерживающие власть кандидаты, для которых в спущенной «сверху» разнарядке просто не нашлось депутатской вакансии.

Самыми "трудолюбивыми" оказались окружные комиссии в Гродненской области, где забракованы более 38 процентов потенциальных кандидатов в депутаты. Самые лояльные комиссии сформированы в Витебской области, где в регистрации отказано всего 19,2 процентам кандидатов. В Брестской области пострадали 35,3 процента выдвиженцев, Гомельской — 22,7, Минской — 25,2, Минске — 30,6.

Одновременно с этим, наконец, отчетливо проступили контуры так называемого «президентского списка» кандидатов в депутаты. «Расчистку» мест для определенных «в верхах» кандидатов можно продемонстрировать на примере двух избирательных округов — 90 Слуцкого и 94 столичного Автозаводского. В первом, помимо прочих, выдвигались заместитель председателя комиссии Палаты представителей по законодательству Николай Карпиевич, жена экс-премьера М.Чигиря Юлия Чигирь и лидер пропрезидентского Белорусского патриотического союза молодежи Всеволод Янчевский. Во втором — председатель парламентской комиссии по вопросам государственного строительства, местного самоуправления и регламенту Анатолий Красуцкий и бывший руководитель Главного государственно-правового управления Администрации президента Александр Пласковицкий. После регистрации и лидер пропрезидентской молодежи, и главный госстроитель оказались в "одиночном плавании", поскольку те претенденты, которые сохранились в этих округах после «чистки», не могут составить им реальной конкуренции и оставлены, скорее всего, для сохранения видимости альтернативности выборов.

Уж не знаю, станут ли центральные власти благодарить местную «вертикаль» за чрезмерное рвение в деле отсева кандидатов, однако и винить местных чиновников не стоит. Ведь они оказались в весьма щекотливом положении: с одной стороны им необходимо продвигать утвержденных «сверху» пропрезидентских кандидатов, с другой — президенту необходимо, чтобы внешне все выглядело цивилизованно, с демонстрацией равенства прав всех участников избирательной кампании.

Основной причиной отказа в регистрации стали формальные неточности, допущенные при оформлении подписных листов. Здесь изворотливые белорусские власти даже опробовали свое ноу-хау. У неугодных властям кандидатов вместо положенной 20-процентной проверки собранных в их поддержку подписей (а от необходимых по закону 1 тысячи это составит всего 200 подписей) члены комиссий стали аккуратно проверять все предоставленные им подписные листы. Набрав критическую массу недостоверных подписей, достаточную для отказа в регистрации, комиссии просто добавляли к ним необходимое до 200 количество подписных листов. Затем кандидатам в депутаты объявляли, что они не могут быть зарегистрированы по формальным основаниям. Иным образом както логически объяснить тот факт, что практически все неправильно оформленные подписные листы кандидатов оказывались именно в числе проверенных 200, невозможно.

Надо признать, власти сделали оппозиции подарок, приоткрыв занавес тайны над тем, каким образом на президентских выборах с дороги Главного претендента будут устраняться демократические кандидаты. Впрочем, возможно, будут найдены еще более изощренные способы манипулирования претендентами на высшую государственную должность. Ведь придворные технологи тоже совершенствуются.

Еще одним барьером, преодолеть который не смогли даже многие из его строителей, стала выработанная в ходе так называемого диалога общественно-политических сил поправка в Избирательный Кодекс, обязывающая кандидатов предоставлять декларации о своих доходах и имуществе. На деле же декларация оказалась очень удобной «зацепкой» для недопущения во власть «чужих». В результате жертвами этой новации оказались ряд ее соавторов, в том числе — представители КПБ и ПКБ.

Кто же уцелел после тотальной чистки? Напомню, из 58 демократических кандидатов уцелело всего 19. На финишную прямую вышли несколько социал-демократов вместе с лидером партии Николаем Статкевичем, несколько «яблочников» с Ольгой Абрамовой, несколько независимых — Михаил Чигирь, Юрий Морозов, Александр Федута, Владимир Новосяд. В списках пока сохранились представители крупного бизнеса, такие как Александр Ваганов (генеральный директор Лада ОМС), Роман Ананьев (генеральный директор Белнефтегаз), Владимир Александрович (генеральный директор Итера-Бел). При этом последние двое являются действующими депутатами Палаты представителей. К слову, попытать депутатского счастья во второй раз решились всего 38 парламентариев. Причем, 35 из них баллотировались в парламент путем сбора подписей — справедливо полагая, что таким образом успешнее всего можно совмещать выдвижение с агитационной работой. Это все известные фамилии — Анатолий Малофеев, Владимир Коноплев, Александр Козырь, Александр Шпилевский, Анатолий Красуцкий, Игорь Котляров, Василий Хрол и другие.

Довольно слабую активность в текущей избирательной кампании проявили труженики села — всего 29 кандидатов, да и те в основном председатели колхозов и директора совхозов.

Значительную долю зарегистрированных кандидатов составляют служащие: работники образования и науки — 80 кандидатов; социальной сферы, культуры и здравоохранения — 57; представители органов правопорядка и военные — 36.

Особую категорию представляют чиновники, проявляющие на этих выборах чудеса активности. Чуть ли не в каждом округе кандидатом в депутаты зарегистрирован работник (или работники) местной администрации. Они, не исключено, также составят значительную часть будущего парламента.

Почти половина зарегистрированных кандидатов в депутаты — 241 человек — по данным ЦИК, являются членами политических партий. Регистрационная чистка здесь и сейчас практически не затронула политические партии. Возможно, для них власти сделали исключение потому, что партии имеют чрезвычайно низкий политический рейтинг в белорусском обществе. Согласно последнему республиканскому опросу Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ), 71 процент респондентов затрудняются ответить, за кандидата какой политической партии они предпочли бы голосовать на парламентских выборах.

Из 18 белорусских политических партий полноценное участие в выборах принимают всего 9. Наибольшее партийное представительство имеет Либерально-демократическая партия — 89 человек (выдвигали 109); Партия коммунистов белорусская — 69 (из 73); Коммунистическая партия Белоруссии — 40 (из 48); Республиканская партия — 13 (из 19); Аграрная партия — 13 (из 16); Республиканская партия труда и справедливости — 12 (из 14); Белорусская патриотическая партия — 10 (из 13); Социал-демократическая партия народного согласия — 5 (из 12); Белорусская социально-спортивная партия — 1 (3). Даже при беглом взгляде на этот партийный расклад обращает на себя внимание некая политическая однобокость участвующих в выборах структур. Восемь из них представляют левый политический спектр — от ортодоксальных коммунистов (КПБ) до розовых социал-демократов (СДПНС, РС, РПТС и БССП). В условиях активного бойкота парламентских выборов правыми партиями, эта часть политического спектра представлена только правоцентристской ЛДП. К этому остается лишь добавить, что 7 из 9 вышеперечисленных партий безоговорочно поддерживают политический курс, проводимый белорусским руководством.

Столь неутешительную статистику может исправить разве что попытка разглядеть мотивы участия данных политических субъектов в избирательной кампании. Если лидеры левых, за исключением Калякина, просто стремятся попасть в Палату представителей, не озабочивая себя вопросами легитимности и полномочий этого органа, то ЛДП и ПКБ рассматривает парламентские выборы, как промежуточной этап президентской избирательной кампании 2001 года. И ЛДП, и ПКБ уже заявили, что пойдут на эти выборы самостоятельно и будут выдвигать своих кандидатов на высший государственный пост. Именно поэтому заявить о себе эти партии хотят уже сейчас.

Что касается "красно-розового" спектра, то его представители входят либо в пропрезидентский Белорусский народно-патриотический союз (БНПС) и, стало быть, мечтают стать опорой Лукашенко в парламенте, либо, как СДПНС и Республиканская партия, заявляют о создании в Палате представителей некой нейтральной социал-демократической фракции. В таком случае в белорусском парламенте могут появиться две социал-демократические фракции: одну — оппозиционную — возглавит председатель БСДП(НГ) Николай Статкевич, вторую — как будто умеренную (но на самом деле пропрезидентскую) — к примеру, лидер СДПНС Сергей Ермак. Впрочем, мало верится в то, что новый белорусский парламент станет фракционным. Судя по всему, в нем, как и в Палате представителей первого созыва, большинство составят либо лояльные властям депутаты, либо непосредственные ставленники властей.

Совершенно очевидно сейчас, что в будущем парламенте забронировано несколько мест и для некоторых из рвущихся в Палату представителей демократов. Им уготована участь стать некой демократической ширмой, "показателями" для Европы. На большее, увы, рассчитывать не приходится. Поэтому уже сейчас можно констатировать, что планы некоторых известных демократических лидеров о создании в парламенте мощной оппозиционной фракции и переносе центра оппозиции из Координационной рады демократических сил и Консультативного Совета оппозиционных политических партий в Палату представителей неосуществимы. Даже имея в парламенте 10-15 демократических кандидатов, вряд ли удастся сформировать некое монолитное оппозиционное ядро. Для создания же самостоятельной фракции не хватит депутатов даже у наиболее перспективной Партии коммунистов белорусской.

Юрий ПОТЕМКИН, для «БМ»

# Адкрыццё ў Чырвоным Касцёле

Наша дзяржава — Беларусь, і большая частка насельніцтва беларусы. Але мы не ўмеем шанаваць і ганарыцца сваёй спадчынай. Мы дрэнна ведаем сваю гісторыю і заснавальнікаў нашага беларускага роду. Нас мала цікавіць наша культура і яе скарбы. Мы не карыстаемся роднай мовай. Дык хто ж мы на самой справе? Што ў нас за нацыянальнасць такая? Чаму дзяржаўныя ўлады так мала зацікаўленыя ў адраджэнні і абнаўленні ўсяго беларускага? Такія пытанні хвалююць мяне даўно.

Каб не забыцца, хто мы, у якой краіне жывем, каб папоўніць свой кругагляд, каб набыць больш ведаў пра Радзіму, пазнаёміцца з яе нацыянальнай культурай, я часта наведваюся ў беларускамоўныя тэатры, дзе атрымліваю вялікую радасць. Поўныя залы пераконваюць, што ёсць шмат прыхільнікаў і аднадумцаў — ужо гэта задавальняе, а ад таго, што тут чуеш прыемную вуху мову, якая пераплятаецца з мовай мастацтва, атрымліваеш поўную асалоду!

Шкада толькі, што дзяржава не зацікаўленая ў развіцці падобных тэатраў. Таму і не ўсе ведаюць, што акрамя Беларускага Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я.Купалы ў сталіцы працуюць і іншыя «храмы мастацтва», якія ставяць свае спектаклі на роднай мове.

...Пра тое, што пры Касцёле святых Сымона і Алены дзейнічае тэатр «Зьніч», ведала даўно, але знаёмства ўсё неяк адкладвалася. І толькі тады, калі прачытала на старонках незалежнай газеты, што адкрыццё тэатральнага сезону пачнецца дабрачынным спектаклем «Выгнанне ў рай», усе сродкі ад якога пойдуць на падтрымку Чырвонага Касцёла, прыйшло рашэнне: па-першае, зрабіць свой унесак у правядзенне супрацьпажарных мерапрыемстваў, ад якіх залежыць далейшая дзейнасць гэтага помніка архітэктуры, па-другое, пазнаёміцца з творчасцю паэтычнага тэатра. Зацікаваліся і мае супрацоўнікі, патэлефанавалі ў тэатр, атрымалі ветлівае запрашэнне і згадзіліся адкласці хатнія справы, каб падтрымаць кампанію.

Адкрыццё сезона пачалі выхаванцы Мастацкага Каледжу. Яны падрыхтавалі невялікі канцэрт класічнай музыкі і прапанавалі выстаўку мастацкіх твораў. Прыемна было пазнаёміцца з юнымі талентамі, якія супрацоўнічаюць з тэатрам. Потым пачаўся спектакль, у аснову якога пакладзены гістарычныя падзеі, што адбываліся ў X стагоддзі паміж Полацкім і Кіеўскім княствамі, дзе асоба Рагнеды мела вялікае значэнне. Галіна Дзягілева — адзіная выканаўца. Нельга не адзначыць яе рэдкі акцёрскі дар, яе эмацыянальны запал. Зачараваныя гледачы ў залі нават дыхаць баяліся, каб не парушыць уражанне, створанае ігрой актрысы. Галіна Дзягілева прапускае праз сябе, праз сваю душу і сэрца ўсю трагічнасць лёсу Рагнеды і, урэшце, вяртае гонар зняважанай беларускай гісторыі, дае магчымасць акунуцца ў філасофскія думкі. Спектакль прайшоў на адным дыханні.

Атрымаўшы шмат станоўчых эмоцый, мы доўга абмяркоўвалі ў сябе на працы адчуванні, што ўзніклі пасля сустрэчы з яшчэ адным скарбам беларускай гісторыі. Узнікла жаданне пазнаёміцца з усім рэпертуарам тэатра. А яшчэ хочацца выказаць вялікую і шчырую падзяку аўтарам і ўдзельнікам спектаклю. І заклікаць прыхільнікаў усяго роднага і нацыянальнага: дзяліцеся сваімі ведамі, думкамі, меркаваннямі і ўражаннямі! Выконвайце свой святы абавязак, вяртаючы суайчыннікаў да жыццёвых каранёў нашай культуры, мовы, гісторыі.

Марына Левацэнка,
для «БМ»

# Мне сьнілася Беларусь...

## Зоя Іванаўна С. распавядае пра сваё жыцьцё й працу ў ЗША



**— Як і чаму Вы трапілі ў Амэрыку?**

— Вы, напэўна, памятаеце, якая галеча была ў Беларусі ў 1992 годзе. Я працавала ў дзіцячым садку выхавацелькай. Заробак — мізэрны. А ў мяне — двое амаль дарослых дзяцей: сыну — 19, дачцэ — 15 год. Я паехала працаваць у Амэрыку, каб зарабіць грошай на больш-менш прыстойнае жыцьцё, дапамагчы дзецям.

**— Вашыя першыя ўражаньні?**

— Ашаламіў неверагодны дастатак, чысьціня, усьмешкі на тварах. Вельмі шкадавала, што мае дзеці ня могуць пакаштаваць усю тую смакату, што была на прылаўках.

**— Якая была Вашая праца?**

— Я працавала «бэбі-сітэрам» (бэбі — дзіця, сітэр — той, хто даглядае). Шчыра кажучы, не перапрацавалася. Маім абавязкам было зьбіраць дзяцей у школу і ў садок. Зазначу, што нармалёвая амэрыканская сям'я мае трох дзетак. Больш — можна, а менш — у іх не прынята. Двух дзетак забіраў раніцай школьны аўтобус, а меншую дзяўчынку маці адвозіла ў дзіцячы садок сама.

Амэрыканскі дзіцячы садок вельмі адрозьніваецца ад нашага. Уявіце сабе адзін вялікі пакой для гульняў. Дзеці прыходзяць туды са сваім ланчам і звычайна бяруць любімую цацку. Калі дзіця заснула — ніхто яго не чапае й не прымушае спаць астатніх. Ніякай плянавай выхаваўчай работы!!!

Школьнікам не давалі хатніх заданьняў. Пасьля школы дзеці займаліся сваімі справамі, гульнямі, а я за імі даглядала. Калі-нікалі трэба было зьбіраць раськіданыя цацкі. Ці прыбіраць у ваньне, калі дзеці надта наплясківалі вады.

**— Тыпова «саўковае» пытаньне: колькі Вам за гэта плацілі?**

— Я працавала ў амэрыканскай сям'і і атрымлівала 50 даляраў у дзень. У эмігранцкай плацілі б толькі 25 даляраў і патрабавалі б ня толькі даглядаць за дзецьмі, але й выконваць астатнюю хатнюю працу.

**— Чаму Вам так пашанцавала? Можа, дапамагло добрае веданьне ангельскай мовы?**

— Не магу сказаць, што я добра ведала ангельскую мову. Перад паездкай скончыла ў Менску трохмесячныя курсы, але гэтага недастаткова. А пашчасьціла паехаць ў Амэрыку дзякуючы асабістаму знаёмству з жанчынай, якая мела кантакты з прыймаючым бокам. Яна дапамагла ў афармленьні дакумэнтаў, параіла, як прайсьці сумоў'е ў амбасадзе.

Мне сапраўды пашанцавала, што я трапіла ў амэрыканскую сям'ю. Яны з павагай і нейкім спачуваньнем ставяцца да нас. Разумеюць, што не ад добрага жыцьця жанчыны вымушаныя на нейкі час пакінуць сем'і, дом і ехаць у такую далячынь. У эміграцкіх сем'ях адносіны да прыслугі найчасьцей хамскія. Яны, здаецца, усё яшчэ шукаюць, каму б адпомсьціць за зьнявагу, крыўды, што выпалі на іхную долю ў СССР.

**— У ЗША прэстыжна мець «бэбі-сітэра»?**

— Гэта звычайна і абавязкова. «Бэбі-сітэра» маюць усе сем'і, нават калі маці не працуе. Але, калі гэтую «пасаду» займае амэрыканка (звычайна негрыцянка), то ёй плацяць 100 даляраў у дзень.

**— Ці адрозьніваюцца амэрыканцы ад нас?**

— Вельмі істотна. Мне здаецца, яны жывуць па інструкцыі. Іхныя інтарэсы, па нашых мерках, вельмі абмежаваныя. У нас, калі пральны парашок быў у дэфіцыце, дык чым яго толькі не замянялі! Сольлю з гаспадарчым мылам, напрыклад. Амэрыканцам такі «кругагляд» не патрэбны. У іх усяго дастаткова.

Пры сустрэчы амэрыканцы гавораць адно пра прыемнае. Скардзіцца на цяжкасьці там няма завядзёнкі. Забароненая тэма — хваробы.

Амэрыканцы звычайна жывуць у трохузроўневых дамах. У цокалі — гаспадарчыя памяшканьні, на першым паверсе — кухня, пакой для сталаваньня, хол, «фэмэлі-рум» (сямейны пакой), пакоі для гасьцей. На другім паверсе — апачывальні. У цудоўна абсталяванай кухні ніхто не рыхтуе ежу, там карыстаюцца паўфабрыкатамі ці ўвогуле гатовай ежай. У пакоі для сталаваньня за год зьбіраліся тры разы: у Дзень Падзякі, у Каляды і на Новы год. Але й тады ў кухні ніхто не завіхаўся. Усё прывезьлі па замове з рэстарану.

У іх ёсьць традыцыя — раз у тыдзень уся сям'я й «бэбі-сітэр» ідуць на вячэру ў рэстаран. Шчыра кажучы, мне гэта не падабалася. Дзеці паводзяць сябе як д'ябаляты, а маці трэба паказваць усяму атачэньню іх добрую выхаванасьць. Так што і ў Амэрыцы ёсьць паказуха.

Мяне ўразіла, што раніца ў іх пачынаецца з таго, што яны кажуць адзін аднаму: «Я цябе люблю». Зразумела, што гэта дзяжурная фраза, але вельмі прыемна.

**— А як там жывуць эмігранты з краінаў СНД?**

— Арэндуюць кватэры, атрымліваюць на працягу 2 гадоў дапамогу на кожнага сямейніка. Вывучаюць ангельскую мову. Адным словам, адаптуюцца. Ёсьць такія, каторыя адразу купляюць дом, наймаюць прыслугу, але іх няшмат.

Эмігранты вельмі цяжка выносяць пачатковы пэрыяд. Я, напрыклад, ведала, што мая мэта — зарабіць грошай і праз год вярнуцца дадому. А ў іх шляху назад няма. Калі б была магчымасьць, то многія ў першы год вярнуліся б. Потым, пасьля адаптацыі, іх колам ня выганіш. Я ня ведаю, як іншыя, але постсавецкія ўпэўнена прыстасоўваюцца. Жыцьцё ў СССР так загартавала, што ніякая Амэрыка не спалохае. Да таго ж, у людзей вялікі багаж ведаў, высокая працаздольнасьць...

**— Мы ўсё размаўляем пра рацыянальнае. А як з эмоцыямі?**

— Часта па начах плакала. Зусім жа адна ў чужой старонцы. Там іншы жыцьцёвы строй, іншыя традыцыі зносінаў паміж людзьмі. На эмацыйным узроўні немагчыма знайсьці паразуменьня. У выходны дзень звычайна сутракалася з жанчынай, зь якой разам афармляла дакумэнты й ляцела ў Амэрыку. Часта сьніла дзяцей, бацькоў. Што цікава, Менск, у якім пражыла 20 гадоў, ня бачыла ў снах аніводнага разу. А бацькоўскую хату й Нарач (дзе нарадзілася) амаль кожную ноч сьніла. Не шкадуючы траціла грошы на тэлефонныя размовы зь дзецьмі й матуляй. Калі-нікалі тэлефанавала й сябрам. Было так прыемна чуць родныя галасы. Ізноў бачыць у снах родную старонку...

Там я адзначала сваё 40-годзьдзе. Адна ля стойкі бара.

**— Я недзе чытала, што, каб адчуць сябе беларусам, трэба пабываць у Амэрыцы...**

— Ня думаю, што я стала больш ці менш беларускай. У мяне не было настальгіі, бо ведала, што праз год вярнуся. Была, можа, толькі крыўда на саміх сябе, што ў Беларусі не жывём так заможна.

У Чыкага, дзе я працавала, ёсьць украінскі, беларускі й польскі кварталы. Там захоўваюцца нацыянальныя традыцыі, мова. З амэрыканскіх прадуктаў рыхтуюць ежу па беларускіх рацэптах...

Было ж некалькі хваляў эміграцыі. Апошнія звычайна зьязджалі па эканамічных прычынах. Яны старанна «абамэрыканьваюцца», іх дзеці ўжо могуць і ня ведаць роднае мовы, а толькі ангельскую. А вось першыя хвалі, старэйшае пакаленьне, зьязджалі па ідэалягічных і палітычных прычынах. Мне падалося, што, калі там хто і захоўвае беларускі дух, дык менавіта яны.

Увогуле, у Амэрыцы ня так важная твая нацыянальнасьць. Важна тое, ці ты грамадзянін ЗША ці не.

**— Гэта не падобна на тое, як у нас раней была піянэрская гульня-падарожжа «Мая Радзіма — СССР»?**

— Не, зусім ня так. У «Радзіме — СССР» галоўным быў СССР, а ў Амэрыцы галоўнае — гэта чалавек. Паспрабуй там пакрыўдзіць негра ці індзейца... Там ніколі не скажуць зьняважлівага «нацмен».

**— Зарабілі грошай, прыехалі ў Менск. Як зьмянілася Вашае жыцьцё? Ці меў якую карысьць амэрыканскі досьвед для працаўладкаваньня тут?**

— Ведаеце, да добрага хутка прызвычайвасься. Менск падаўся мне іншай плянэтай. Праца ў садку не задавальняла. А дакладней — плата за працу. Але гэта працягвалася нядоўга. Праца ў Амэрыцы для некаторых важнейшая за дыплём. Спрацавалі рэкамендацыі, мяне пачалі запрашаць гувэрнанткай у заможныя беларускія сем'і. Я нават мела выбар. Цяпер з гувэрнанткі дарасла да старэйшага мэнэджэра ў прыватнай фірме. Амэрыканская мара па-беларуску...

**— Каб была магчымасьць, паехалі б зноў папрацаваць ці, можа, назаўсёды?**

— Я ня думаю пра гэта і нічога не прадпрымаю. Мае жыцьцёвыя абставіны значна лепшыя, чым у 1992 годзе. (Доўгая паўза). Я ўжо не магу ехаць адна. У мяне сын, дачка, зяць, двое ўнукаў.

У мяне была магчымасьць выйсьці ў Амэрыцы замуж і зь цягам часу забраць туды дзяцей... Але, акрамя матэрыяльных дабротаў, павінен быць спакой у душы. Я адчувала, што яго ня будзе.

Я не настолькі прагматычны чалавек, каб сытае, заможнае жыцьцё для мяне й маіх блізкіх адвучыла бачыць сны аб Беларусі. Я ніколі не хаджу на мітынгі й не крычу: «Жыве Беларусь!», але адчуваю, што яна жыве ў маёй душы. І ведаеце, вашае апошняе пытаньне — самае цяжкае. Я ня ўсё магу выказаць у словах, але я зноў адчула, што так размаўляць і закранаць самыя патаемныя пачуцьці можна толькі дома. Тут цёпла і душэўна, ёсьць свой невялічкі ўтульны сьвет. А там адно заможна й прагматычна.

**— Дзякуй за цікавую гутарку. Пажадаем сабе й чытачам здолець далучыць да нашае душэўнасьці амэрыканскую заможнасьць.**

Аксана Піпко,
газета Беларускага Калегіюма
«Анціпод»

*(Захаваны правапіс арыгіналу)*



# У экслібрысах пра Радзіму

У Беларусь вярнуліся студэнты-мастакі, якія ўдзельнічалі ў Міжнародным варштаце экслібрысу ў Кшыжове (Польшча). У варштаце прымалі ўдзел мастакі, акторы і музыкі з розных краінаў. Ад Беларусі былі запрошаныя 8 студэнтаў Беларускай Акадэміі мастацтва. Разнастайныя практычныя заняткі праводзіў выкладчык Вроцлаўскай Акадэміі мастацтваў Марэк Станілевіч. У праграме варштату былі паказ моды, вулічнае свята ў Свідніцы (з пераапрананнямі, своеасаблівым сцэнарам і забавамі), паход у горы, футбол паміж мастакамі і мясцовымі жыхарамі. Але аснову праграмы складала творчая праца над экслібрысамі. Усе творы мусілі прадстаўляць краіну, з якой прыехаў творца, і быць пададзенымі на роднай мове. На сыходзе працы варштату была зарганізаваная выстава, свае творы мастакі пакінулі ў Кшыжове.

BARC

# Клин Климовым вышибают?

**Если представлять белорусскую музыкальную журналистику в лицах, лицо № 1, без базара, — Олег Климов. В каких бы выражениях ни отзывалась о нем богема отечественного разлива и в каких бы выражениях сам Олег Валерьевич ни отзывался о белорусской музыкальной тусовке, факт остается фактом: авторитет Климова среди музыкантов, равно как и среди собратьев по перу, непоколебим. И вот ведь бывает: накрутит хвост на уши в очередном номере "МГ" очередной звезде, а через пару дней на концерте глядишь, сидят вместе, пивкомводкой балуются, и без обид... Эдакий получается "синдром Отара Кушинашвили" — многими ругаем, но и многими любим. Но далеко не многим известно, что путь в журналистику знаменитого О.К.-ея был тернист и извилист...**

— Я родился и жил в Казахстане. Вообще-то я по образованию технарь, а не гуманитарий, но у нас был очень веселый институт — филиал Московского авиационного института. Там учились многие знаменитые личности — мой однофамилец знаменитый режиссер, Михаил Задорнов, очень многие газетчики. По распределению я попал в Минск. Пошел на завод им.Орджоникидзе, проработал там пять лет. После распался Союз, начались экономические неурядицы, и я попал в одну частную фирму, отработал там год и ушел. Месяца два-три болтался без дела. И как-то в газете, по-моему, в "Вечерке", прочитал, что журнал "Несси" объявляет конкурс журналистов и приглашает на собеседование. Я туда пришел, мне предложили какие-то темы, я чего-то написал и подошел. Это был год 95-й. Я попал в отдел культуры, первое мое интервью, помню, было с Инной Афанасьевой — без диктофона, под запись, она очень удивлялась этому. Потом какие-то пертурбации начались в журнале, и меня бросили затыкать дырку в политике. Это был 95-96-й год, когда Александр Григорьевич объявил себя сначала демократом, а потом оказалось, что он демократию немножко нетрадиционно понимает. Я с удовольствием вспоминаю то время, мне довелось пообщаться с очень интересными людьми, как бы кто к ним не относился. Скажем, я брал интервью у Зенона Пазьняка, у Сергея Антончика.

*— Ну, и как Пазьняк, не страшный?*

— Нет, на меня он произвел хорошее впечатление. Правда, показалось, что он холодноватый, дистанция явно чувствовалась, видно, что человек знает себе цену. Журнал наш в то время еще позволял себе определенные вольности, хотя, конечно, все потом корректировалось. А я был антилукашенковски настроенным "нячэсным" журналистом. Журнал "Несси" выпускала коммерческая фирма "Несси", и при этой фирме создали еще один журнал "Золотая орхидея", и девчонки, которые этот журнал делали, переманили меня туда — заниматься тем, чем я и занимался — культурой. А в один прекрасный момент и журнал стал плохо выходить.

В конце 96-го года в газете "Имя" я прочитал, что появилась "Музыкальная газета". Меня всегда тянуло к музыке. Я туда позвонил, предложил тогдашнему шеф-редактору Саше Зеленеру свои материалы, интервью. Он сказал: "Все нормально, подходишь, будешь внештатно писать для нас". Как раз тогда компания подобралась хорошая: Макс Ивашин перешел из-за каких-то проблем в "Ушах". И я начал пописывать. А потом настал момент, когда ситуация в "Золотой орхидее" стала совсем плохой, мне предложили перейти в "Музыкальную газету", и я, конечно, согласился. Однажды я пришел и узнал, что Саша Зеленер уже здесь не работает. Не знаю, что там было, какие-то непонятки возникли на уровне издателя и Саши как шеф-редактора, и разрешением ситуации стал уход Саши из газеты. Меня брали редактировать русскоязычный и белорусскоязычный блок, а на западный блок взяли Диму Безкоровайного.

*— Говорят, что сейчас у "музыкалки" какие-то проблемы, и будет сокращаться формат для белорусской музыки?*

— Много было всяческих мыслей, что делать с "музыкалкой" — газета должна развиваться. Но я думаю, ничего страшного в отношении белорусской музыки происходить не будет. Я думаю, что в октябре-ноябре будет принято какое-то решение, но, как мне сейчас кажется, ничего не изменится, белорусская музыка не исчезнет со страниц "музыкалки" и останется в том же объеме. Возможен, правда, такой вариант: "Музыкальная газета" в несколько ином виде будет предлагаться российским читателям. Но это не означает, что газета уйдет с белорусского рынка, наоборот, оставшись здесь, она станет чисто белорусской. То есть будет два варианта "Музыкальной газеты".



*Олег Климов и Курт Кобейн — «близнецы братья». Кто более матери-истории ценен?*

*— Олег, какая белорусская музыка нравится лично Вам?*

— Мне очень нравится группа N.R.M., что совершенно не означает, что я не могу в определенный момент написать о них все, что думаю. Когда я в свое время увидел МРОЮ по телевизору, я понимал, что по аппаратуре, инструментам это очень сильно уступает даже российским исполнителям, но все равно производило сильное впечатление. Мне показалось, что года два назад они стали немножко подыгрывать своей достаточно политизированной публике. А потом, опять-таки мне показалось, что группа от этого избавилась, они стали заниматься тем, чем и должны — искусством, музыкой, но оставаясь при этом Гражданами.

Еще мне очень нравится то, что делает Кася Камоцкая в электричестве, больше чем ее какие-то полуакустические, полуэлектрические вещи. Мне очень нравился ранний УЛІС, чего нельзя сказать о его последних работах — от Славы Кореня валит какой-то смур, поэтому лично мне тяжело его слушать. КРАМА мне особо никогда не нравилась, но я понимал, какого уровня эти музыканты и какого уровня музыку они играют.

*— А из молодых?*

— Ну, у меня есть любимцы — ТТ-34. Группа, которую я очень люблю, но которая, боюсь, закончит свое существование так, как заканчивает свое существование GODS TOWER. Но, может, им этого удастся избежать. Я чувствую их энергию, когда смотрю и слушаю их, я молодею, мне хочется побеситься, я себя сдерживаю. Из белорусскоязычных — БЕЗЬ БІЛЕТА очень хорошая группа, может вырасти.

*— В музыкальных кругах есть мнение, что О.К. — это авторитет. Молодые команды приносят кассеты на рецензию именно Олегу Климову. А потом музыканты открывают "МГ" и читают милипиздрическую информацию о том, что они делают, причем, чаще всего очень субъективную...*

— Ну, рецензии вообще жанр субъективный...

*— Например, когда Олег Климов пишет про попсу русскую, то там появляются хотя бы какие-то элементы стеба, а люди, которые хотят найти в Климове друга, брата и советчика, получают не оплеуху, но явно недостаточное внимание.*

— Ну, начнем с того, что я очень не люблю писать рецензии, особенно в последнее время. Я уже не знаю, о чем писать. Не было каких-то открытий, которые поразили так, чтобы захотелось действительно написать что-то такое.

*— А Вы могли бы написать чисто скандальный материал, не боясь никого из музыкантов?*

— Я не вижу сейчас таких музыкантов, которых можно обстебать.

*— Или распустить какой-нибудь слух...*

— А мы пытались такое замутить с КРЫВІ, они не поддержали. Выдаю секрет: дело было на каком-то концерте, кажется, на ВОПЛЯХ ВИДОПЛЯСОВА. Мы с ними встретились, сидели за одним столом, водку пили. По-моему, это от Димы Войтюшкевича пошло, он сказал: "Давай, чего-нибудь такое сочиним. Например, Дима с Вероникой расходятся". Я говорю: "Давайте напишем, что Пит от вас уходит, а потом вы опровержение дадите, а я в ответ, что источники были достоверны". Я вкинул эту дезу, им напоминал, а они говорили: "Сейчас, сейчас" — и все. Насчет того, чтобы придумать что-то искусственное, мысли такие есть, может быть, чего-то и сделаем.

*— Олег, так или иначе, но "Музыкальная газета" формирует вкусы читателей. Смотрите, какая закономерность: кто-то написал в "МГ" — вскользь, намеками — что в Беларуси очень популярен пост-гранж, и все его поддержали. Потом начали говорить, что N.R.M. — это пост-гранж. Потом кто-то написал, что N.R.M. — это KORN, и все стали считать, что N.R.M. — это хардкор.*

— Сейчас же в музыке настолько размыты все течения! Если раньше, десять-пятнадцать лет назад, можно было слушать какие-то аналоги 60-х годов и приблизительно для себя что-то уяснить, например, PINK FLOYD играет такую-то замороченную музыку и обозвать ее арт-роком, или музыку, которую играла КРАМА — ритм-энд-блюз железно, METALLICA — хэви, тоже все понятно, то сейчас в том же альбоме "Californication" RED HOT CHILE PEPPERS можно услышать все, что угодно. Тот же N.R.M. может в одну "Песню пра каханьне" зарядить и попсу, и гранж, и т.п. Поэтому, когда я N.R.M. сравнивал с LIMP BIZKIT, то, можно сказать, что я юморил.

На самом деле я достаточно неграмотный человек в музыке и еще пытаюсь учиться.

*— Олег, а Вы на самом деле считаете, что "Беларуская Музычная Альтэрнатыва" — это сборище каких-то "коричневых" отморозков?*

— Да это ерунда полнейшая! В материале про концерт "Вольныя танцы" был камень не в сторону БМА, а конкретно Витовта Мартыненко.

Я как-то разговаривал с Виталем Супрановичем и смысл беседы был такой: "Виталик, вот придешь ты через пять лет к власти, и попробуй я напиши что-нибудь в "Музыкальной газете" против N.R.M. или против Каси Камоцкой"...

*— У кого из сегодняшних политиков Олег Климов, будь он сейчас журналистом "Несси", хотел бы взять интервью, кто был бы ему интересен в плане музыки?*

— Ну, понятно у какого! Как бы ни оценивали его плюсы и минусы, это очень яркая фигура, будь он даже не искренен в интервью, все равно было бы интересно пообщаться, если бы еще о рок-н-ролле... А из политиков... Я в свое время, еще работая в "Несси", пытался пробить и почти пробил интервью с бывшим шефом госбезопасности Шейманом. С Заметалиным поговорил бы. Но они начинают интересно говорить, только когда покидают посты. Может, с Северинцем, Вечеркой пообщался бы.

*— А вообще интересуетесь политикой?*

— А куда от нее денешься?

Беседовали Новоселич & Белевич, для "БМ"

**P.S. Остальные пикантные подробности из жизни Олега Климова вы сможете в скором времени прочитать в журнале POST'R — первом издании, полностью посвященном белорусской музыке. О выходе POST'R "Беларуская маладзёжная" сообщит в одном из следующих номеров.**



# Все только начинается!

**Уж сколько писано-переписано про уральских парней, которые ровно 15 лет назад окрестили свою творческую тусовку в то время странным, непонятным и совершенно не ложащимся на слух именем ЧАЙФ! Уж как только ни хвалили и ни ругали группу, которая за эти 15 лет не то что стала легендарной, а еще приобрела негасающую популярность (а не просто память о «классных старичках» некогда живого русского рока). Но в любой юбилей, как и в обычный день рождения, никогда не помешает еще разочек поговорить о виновниках торжества. Тем более, когда устраивается оно с великим размахом.**

В этом году ЧАЙФы приехали к нам уже второй раз, и второй раз с программой, посвященной их дню рождения, который они, по всей видимости, решили праздновать целый год. Еще не успели минчане остыть от мартовского концерта, который проводился в КЗ «Минск», как «Класс-Клуб ДК» и Могилевская областная филармония решили организовать еще одно шоу. И что ж, организовали.

25 сентября в минском Дворце спорта прошел юбилейный концерт «заюбилеившихся» юбиляров (ну никак по-другому не скажешь!). Рекламировали это событие не очень навязчиво, по крайней мере, афиши в глаза сильно не «лезли», наверное, решили организаторы, что для того, чтобы сходить на ЧАЙФов ОСОБОЕ приглашение не нужно. Что ж, правы ведь оказались!

Количество людей, пришедших поздравить своих любимцев с юбилеем, трудно передать словами. Его очень хорошо можно было почувствовать тем, кто не побоялся купить билеты на танцпол и, более того, попасть в эйфоричную середину таких же смельчаков. Даже Владимир Шахрин, глядя на толпу со сцены, не выдержал и попросил «задние» ряды не устраивать давки, пытаясь подойти поближе: «Ребята, вы посмотрите, впереди столько девчонок, им же еще детей рожать! Вы от экстаза лучше назад падайте, а не вперед!..» Приятно, что Володя так заботится о минских девчонках, которых он, кстати, признал самыми красивыми. И без лукавства, присущего многим певцам, которые не скупятся говорить, что публика именно в ЭТОМ городе — ну самая-самая! (А через день — то же самое, только в совершенно другом месте).

В этот день было много «нетрадиционного». Во-первых, изменив всем своим правилам, концерт ЧАЙФы начали не словами «В твоем парадном темно...», а приветствием и пожеланием спеть специально для Минска песню с символичным названием «Лучший город Европы». Во-вторых, я никак не могла понять, что ж такое творится с Владимиром Бегуновым, который за весь концерт хорошо если промолвил две фразы... Хотя обычно его язычок не устает «откалывать» всякого рода шуточки (причем, не только в «тему»). То ли устал он от затянувшегося веселья, то ли нехорошо ему было (по той же причине), но энергии в Бегунове я никак не могла узреть. Правда, под конец концерта «Оранжевое настроение» буквально заставило его с улыбкой пропеть: «Оранжевое солнце, оранжевый верблюд...» На эту песню даже милиционеры, бесцеремонно выводившие из зала ребят с зажигалками, бросили «террор» и принялись подпевать. Ну где такое еще можно увидеть?

Прежней была добрая, дружеская атмосфера, которую Шахрин создавал своей непринужденной беседой с залом и «здоровым» поведением (я про отсутствие «звездного» снобизма). А что уж говорить про оригинальные «подводки» к песням: «Дорогие мои, вот уж близится новый век, новое тысячелетие... Я хотел бы вам пожелать в утро этого нового века проснуться от поцелуя любимого человека. Желательно, конечно, чтобы он был противоположного пола...»

Ну и, естественно, песни, которые уже десятилетие как трогают наши сердца и все никак не могут надоесть или стать забытыми. (К примеру, всеми любимая «Ой-йо!»).

Что ж, не начать песней «С войны» — так закончить ею, выйдя на «бис»...

Повезло девушкам, которые сидели на плечах своих парней: ведь они лучше остальных могли видеть сотни поднятых рук и чувствовать необычайность праздника. Классно подняться над толпой и в тоже время подчиняться ритму ее танца...

Программа носила название «Все только начинается». Каким-то нелепым казалось мне оно до этого концерта (ну какое начало может быть у 15-летней группы, добившейся самой настоящей любви поклонников?). А выходя из Дворца спорта, мокрая, с сорванным голосом и нефункционирующими от прыгания и танцев ногами, я поняла, что, действительно, все только начинается!

Людмила Шестак, для «БМ»

